9 ЛІПЕНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№76 (607) КОШТ СВАБОДНЫ




# Лужкоў і Пушкін сустрэнуцца ў Мінску

## Першы заўтра адкрые помнік другому на беразе Свіслачы, перад гатэлем «Беларусь»

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Спачатку планавалася, што помнік будзе адкрыты з вялікай помпай падчас святкавання Пушкінскіх дзён акурат да 200-годдзя слыннага рускага паэта. Аднак трагедыя на Нямізе змяніла планы арганізатараў. Як вядома, была абвешчаная 40-дзённая жалоба, і ўсе святкаванні былі зведзеныя да мінімуму (што, аднак, не перашкодзіла мінскім уладам урачыста правесці ў дні жалобы «Міжнародныя спартыўныя гульні працоўных»). У маскоўскага мэра аказалася крыху больш такту, і ён вырашыў прыехаць на адкрыццё помніка на наступны дзень пасля заканчэння «афіцыйнай» жалобы.





Нагадаем, што помнік Пушкіну мае маскоўскія карані, а таксама моцную прывязку да імя Юрый. Ягоныя аўтары – масквічы: скульптар Юрый Арэхаў і архітэктар Юрый Грыгор'еў. А маскоўскі мэр Юрый Лужкоў падараваў Пушкіна Мінску. Дакладней кажучы, падараваў толькі гіпсавую мадэль, адліўка самога помніка рабілася ўжо ў нас – але за маскоўскія грошы.

Цяпер Юрый Лужкоў прыедзе паглядзець, як ягоны дарунак будзе яўлены мінскай публіцы. Апроч адкрыцця помніка, ён яшчэ сустрэнецца ў інтымнай абстаноўцы з Аляксандрам Лукашэнкам. І ў гэты ж дзень вернецца ў родную Маскву. ■



**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

### Ахвяры маланкі

У сераду падчас моцнай навальніцы ад удару маланкі загінулі два пенсіянеры, якія знаходзіліся на шляху ад сваіх дачных участкаў непадалёк ад вёскі Жукаў Луг Мінскага раёна. Жанчына, што была разам з імі, атрымала цяжкія пашкоджанні і цяпер знаходзіцца ў рэанімацыі.

Па звестках штаба грамадзянскай абароны, найбольш дасталося ад стыхіі Мінскаму, Мядзельскаму, Слуцкаму і Любанскаму раёнам. Шквалісты вецер разбурыў дахі на жылых дамах і гаспадарчых пабудовах. Лініі электраперадачаў былі абарваныя нават у Мінску на вуліцы Радыятарнай. У Мядзельскім раёне ліквідуюцца завалы на дарогах. У Любанскім пашкоджаныя лініі сувязі і шмат пашкоджанняў на тэрыторыі калгаса «40 гадоў Кастрычніка». У выніку навальніцы паваленыя тры высакавольтныя апоры паблізу Маладзечна, выйшлі са строю дзве падстанцыі мясцовага водазабору, і ў горад не падавалася вада з 19 гадзінаў вечара прыкладна да дзвюх гадзінаў ночы. У Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці таксама «папрацавала» стыхія, у выніку чаго абясточаныя 23 населеныя пункты, пацярпелі гаспадарчыя пабудовы. На момант падпісання нумару ў друк мясцовыя штабы грамадзянскай абароны яшчэ займаліся вывучэннем сітуацыі пасля навальніцы. Асабліва пашкоджаная вёска Вялікія Свіранкі, ёсць завалы ў лясным масіве.

***Мікола ВАЙТОВІЧ***

**ТРАГЕДЫЯ**

# Жалобны знак на Нямізе

**Язэп СІНІЦКІ, Міхась КАРПОВІЧ**

**Учора ў Мінску адзначалі саракавіны трагедыі на Нямізе, якая ўнесла 53 чалавечыя жыцці.**

Раніцай бацькі, сваякі і знаёмыя загінуўшых прыйшлі на жалобную літургію, якую адправіў мітрапаліт Філарэт. Пасля яе заканчэння хросны ход накіраваўся на менскае замчышча, дзе ў XI стагоддзі знаходзілася гарадская царква. Там святары адслужылі паніхіду, а людзі ўсклалі кветкі. Многія сваякі ахвяраў трагедыі не засталіся чакаць адкрыцця афіцыйнага помніка каля станцыі метро і паехалі на могілкі да магілаў сваіх дзяцей і сяброў. Па словах родных загінуўшых, стылізаваныя прыступкі і кветкі можна лічыць толькі памятным знакам, а сапраўдным помнікам ахвярам няміжскага пераходу павінна стаць капліца Збавіцеля на Крыві.

Афіцыйнае адкрыццё помніка было непрацяглым. Аляксандр Лукашэнка, мінскі мэр Ярмошын і Філарэт усклалі да знака кветкі, а прэзідэнт яшчэ на некалькі хвілінаў спусціўся ў падземны пераход. Пасля Лукашэнка падышоў да групы бацькоў ахвяраў трагедыі спытаць, якія ў іх ёсць праблемы. Скульптар Міхаіл Інькоў, які на Нямізе страціў дачку, папрасіў Лукашэнку даць дазвол на будаўніцтва царквы. Прэзідэнт паабяцаў разгледзець просьбу, пасля чаго ад'ехаў.



Гібель 53 чалавек на Нямізе, на вялікі жаль, стала падставай і для ўсяляких спекуляцыяў. Такія спекуляцыі даюць магчымасць «засвяціцца». І яны, на жаль, былі – як з боку ўрада, так і з боку прадстаўнікоў апазіцыі.

Аўтары памятнага знака на Нямізе прапанавалі не лепшы варыянт помніка. І пошук формы мусіць быць працягнуты. Аднак да любога праекта трэба ставіцца вельмі асцярожна. Бо для дзеячаў мастацтва жалобны помнік можа стаць яшчэ адной прыступкай да ганаровага звання альбо народнага прызнання. І гэта заўсёды трэба ўлічваць. Ва ўсялякім выпадку, добра, што аўтары памятнага знака не пайшлі па шляху маскоўскага скульптара Цэрэтэлі і не ставілі мэтай зрабіць гіганцкі манумент.

І яшчэ. Цяжка чытаць народныя «графіці» ў пераходзе. Калі адныя радкі напісаныя літаральна болем, то іншыя, у асноўным, вершаваныя, – для «публікі», напаказ. Такія «аўтары» робяць рэкламу сабе і сваім перакананням, «геніяльным» ідэям, некаторыя нават пакідаюць нумар свайго тэлефона. Няўжо ў іх не засталося іншай магчымасці, каб зрабіць сваё імя вядомым? Няўжо іхняе сумленне не кажа ім, што трэба быць ціпляйшым? Цяжка жыць і ведаць, што вакол жывуць такія людзі, не абцяжараныя маральнымі прынцыпамі.

Асобна некалькі словаў варта дадаць пра пазіцыю царквы. На месцы трагедыі расклееныя ўлёткі з вершамі і празаічнымі зваротамі, якія ў адкрытую спекулююць на смерці маладых мінчукоў. «Самі вінаватыя, – крычаць гэтыя тэксты, – мы іх папярэджвалі! Хутчэй бяжыце ўсе ў нашую царкву – і такога з вамі не здарыцца». Сорам выкарыстоўваць трагедыю для рэлігійнай прапаганды.

**10 ліпеня ў Мінску адбудзецца агульнанацыянальны з'езд рабочых. Пагаршэнне жыцця людзей, рост цэнаў, сацыяльны і палітычны крызіс у краіне – тэмы, якія плануюцца да абмеркавання на з'ездзе. З'езд пройдзе за горадам на арэндаванай арганізатарамі турбазе.**

**Збор дэлегатаў і прэсы для ад'езда ў 10:00 каля будынка Аблсавета прафсаюзаў (пл.Свабоды, 23).**

наша свабода

**НАДВОР'Е**




10—11 ліпеня па **Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай** і **Віцебскай** абласцях чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер усходні, паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек. Тэмпература ноччу 12—17. Па **Брэсцкай** і **Гомельскай** абласцях пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ноччу 10-га кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер усходні, паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек, пры навальніцах парывы да 14 м/сек. Тэмпература ноччу 13—18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**

ПЯТНІЦА



З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## Беспросвет

Вот ведь как жизнь поворачивается. Еще год назад, когда президент громил оппозицию, никто из вертикальщиков и сотрудников администрации президента и допустить не мог, что спустя совсем немного времени будет завидовать этой самой оппозиции черной завистью. 20 июля черное настоящее закончится и наступит то самое «светлое будущее», о котором так долго говорила оппозиция. Нет, конечно, манна с неба падать не начнет, и коммунизм внезапно не наступит. Но ситуация, безусловно, изменится. Так что же произойдет в этот «роковой вторник» 20 июля?

**Во-первых, наступит паралич вертикали.** Ведь любой выполненный необдуманный приказ властных структур может впоследствии обернуться для исполнителя неприятностями. Вертикальщики начнут «итальянскую забастовку» — будут приходить на работу и активно заниматься ничегонеделаньем. Участятся контакты вертикальщиков и оппозиции.

**Во-вторых, активизируется оппозиция.** Главный сдерживающий фактор — легитимность президента — больше не будет довлеть над оппозиционными политиками. В случае, если будет выбрана правильная тактика действий, оппозиции удастся заручиться поддержкой населения. Этому будет способствовать и катастрофически ухудшающееся состояние экономики, которое к осени станет совершенно невыносимым.

**В-третьих, радикализуются международные структуры.** Если поначалу позиция Германии или Франции будет осторожной и нейтральной, то по мере эскалации напряжения произойдут подвижки в сторону позиции США и Великобритании, которые однозначно оценивают состояние прав человека в Беларуси и не приемлют узурпации президентом функций всех ветвей власти.

**В-четвертых, Россия не будет активно вмешиваться во внутренний белорусский конфликт.** У нее сейчас своих проблем не меньше, чем у нас. Грядущие парламентские выборы парализуют властные структуры России на ближайшие полгода, нейтрализовав заодно и все интеграционные инициативы.

Тяжело представить, что будет делать белорусский президент — ведь ничего оптимистичного для него в подобной ситуации не прогладывается.

# Улады лічаць, што Захаранка знік бясследна

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Два месяцы таму знік былы міністр унутраных справаў Беларусі, вядомы апазіцыянер Юрый Захаранка, але дагэтуль няма не тое што пэўных звестак пра лёс экс-міністра, але нават і больш-менш абгрунтаванай версіі ягонага знікнення.**



Афіцыйна Юрыя Захаранку шукае ўпраўленне пошуку мінскай гарадской міліцыі. Які вынік дала гэтая праца? Адзін з супрацоўнікаў упраўлення, які непасрэдна адказвае за справу Захаранкі, пацвердзіў, што ніякіх вынікаў няма. У тым ліку нічога не дало апытанне жыхароў вуліцаў, па якіх Захаранка мог ісці з аўтастаянкі дадому. «Сведкі, якія б адназначна пацвердзілі, што бачылі, як нехта захапіў Захаранку, намі не знойдзеныя», — сказала крыніца. Па яе дадзеных, зборам інфармацыі пра лёс Захаранкі займаюцца таксама пэўныя структуры міністэрства ўнутраных справаў, перш за ўсё збіраецца апаратыўная інфармацыя — апытваюцца крыніцы ў крымінальных структурах. Але, відаць, пакуль гэтыя крыніцы нічога пра экс-міністра не даведаліся. І ўсё ж пошукі будуць працягвацца, але дагэтуль толькі сіламі гарадской міліцыі. Па звестках, міліцыянты звярталіся ў пракуратуру з прапановай узбудзіць крымінальную справу па факце знікнення Захаранкі, але ў ведамстве Алега Бажэлкі на такі крок не адважыліся.

Па сутнасці, у тупіку і грамадская камісія, створаная прадстаўнікамі апазіцыі. Старшыня гэтай камісіі былы следчы Алег Волчак запэўнівае, што яны зрабілі ўсё магчымае, але далей звестак, атрыманых у першыя дні працы камісіі ад ананімных сведкаў, не прасунуліся. Волчак кажа: «Тры чалавекі патэлефанавалі нам і сказалі, што бачылі, як група невядомых асобаў у цывільным напала на Захаранку. Яго запіхнулі ў цёмназялёныя «Жыгулі» і некуды павезлі. Але гэтыя сведкі ананімныя. Вы ведаеце, у якой краіне мы жывём, іх трэба зразумець. Іх паказанні супадаюць, што дае падставы даваць гэтай інфармацыі. Зыходзячы з яе, мы зрабілі выснову, што Захаранку скрала нейкая паўлегальная структура, выконваючы чыста палітычны загад. Калі б дзейнічалі крымінальнікі, апаратыўныя звесткі гэта ўжо б пацвердзілі. Асабіста я лічу, што Юрый Захаранка жывы і ўтрымліваецца на нейкай спецбазе, хутчэй за ўсё за межамі Беларусі, на тэрыторыі краіны, з якой нашыя спецслужбы сябруюць. Інакш мы б ужо атрымалі пра яго нейкую інфармацыю». Афіцыйныя беларускія ўлады дагэтуль нават не адказалі на лісты міжнародных грамадскіх арганізацыяў з заклікамі прыкласці ўсе намаганні для пошуку зніклых грамадскіх дзеячаў Беларусі. «Гэтае маўчанне азначае, што, як меншае, лёсам Захаранкі нашае кіраўніцтва не цікавіцца», — упэўнены старшыня грамадскай камісіі па пошуках Юрыя Захаранкі Алег Волчак.

На пытанні НАВІНАЎ адказала таксама жонка экс-міністра Вольга Захаранка.

***— Ці вядома Вам нешта новае пра лёс Вашага мужа?***

— Канкрэтна абсалютна нічога, акрамя некаторых пасланняў, якія мяне не столькі маральна падтрымалі, колькі наадварот. Уражанне, што нехта зацікаўлены, каб я пакутвала яшчэ больш.

***— Ці праўда, што Вы звярталіся да экстрасэнсаў?***

— Праўда, і я лічу, што не дарэмна. Яны ўсе казалі, што Юра жывы. Істотна, што гэтыя розныя людзі, у тым ліку адна ваяжбітка з Днепрапятроўска, прыводзілі дэталі, якія супадаюць. Бачыце, на якія сілы даводзіцца спадзявацца. А што рабіць, калі нашыя ўлады мужа зусім не шукаюць? Яны толькі робяць выгляд, што пошукі ідуць. Адсюль і ніякага выніку. ■

АСЯРОДДЗЕ

# Пляжы прыватызуюць

Марат ГАРАВЫ

Цяперашнім часам мінчукам дазволена купацца толькі ў двух вадасховішчах паблізу сталіцы — Цнянскім і Пцічы. Ва ўсіх астатніх вадаёмах, прызначаных для купання і размешчаных у межах горада і ў яго прыгарадах — вадасховішчах Вяча, Дразды, Заслаўскае і Камсамольскае возера, — пастановамі санітарных службаў купанне часова прыпыненае. Такое рашэнне выклікана значным — у пяць разоў — павелічэннем утрымання ў вадзе бактэрыялагічных забруджвальнікаў, што сведчыць аб наяўнасці ў вадаёмах патагеннай мікрафлоры, якая з'яўляецца прычынай інфекцыйных захворванняў.

Апроч таго, прамысловыя прадпрыемствы сталіцы перасталі ўкладваць сродкі ў добраўпарадкаванне прыбярэжнай паласы вадаёмаў, пакольні практычна не зацікаўленыя ў гэтым. Сітуацыю, на думку спецыялістаў, можна выратаваць толькі шляхам перадачы пляжных тэрыторыяў прыватным асобам або ўвядзеннем платы за карыстанне пляжамі. ■



ТЭНДЭНЦЫІ

# Ліпеньскія страйкі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Вулічная спакота не стрымлівае росту напружання ў грамадстве. Запазычанасці па мізэрных заробках на прадпрыемствах выліваюцца то тут, то там у страйкі, шляхам якіх працоўныя спрабуюць абараніць свае правы.**

**МІНСК**

Днямі на Мінскім заводзе ацяпляльнага абсталявання (МЗАА) баставаў ліцейны цэх радыятараў. Прычынаю хваляванняў стала выплата заробку за травень толькі напалову. Дырэктар МЗАА паабяцаў выплаціць астатняе ў першай палове ліпеня. Між тым па прадпрыемстве ўпарта паўзуць чуткі, што праз два месяцы МЗАА будзе ўвогуле зачынены.

**ОРША**

Працоўныя асноўных цэхаў АТ «Орша» 6 ліпеня не прыступілі да працы, а сабраліся каля будынка заводаўпраўлення. Як і ў Мінску, праца была спыненая з-за таго, што апошні раз заробак давалі за красавік. Кіраўнікі паабяцалі разлічыцца ў ліпені, але вось на патрабаванне падвысіць заробак у 2,5 разы — не адказалі ніяк. Працоўныя настроеныя рашуча, што можа выліцца ў паўторны страйк.

**ГРОДЗЕНШЧЫНА**

Даведзеныя да адчаю рабочыя племзавода «Новы двор» Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці, якія не атрымліваюць заробак ужо 6 месяцаў, абвясцілі забастоўку. Распачалі страйк трактарысты, якія ў самы разгар уборкі сена адмовіліся выехаць на поле.

Двума днямі пазней адмовіліся працаваць жывёлаводы. Досыць няўпэўнена, ім грошы паабяцалі выплаціць да панядзелка, 12 ліпеня. Калі гэтага не здарыцца, страйк узновіцца, толькі цяпер яго падтрымаюць і кіроўцы «Новага двара».

Між тым той заробак, што налічваюць рабочым, і заробкам нельга назваць — усяго паўтара мільёна рублёў. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Нам очень импонирует та свобода, которой обладает Башкортостан в составе Российской Федерации.**

*Александр ЛУКАШЕНКО, Уфа, 7 июля 1999 года*

# Надзвычайнае здарэнне ў небе

Іван БАБІЧАЎ

Прыкладна ў 9 гадзінаў раніцы 8 ліпеня над Зялёным Лугам-5 у Мінску падаў ваенны самалёт, які па знешнім выглядзе нагадвае МІГ. Ён зрабіў 3 кругі, апускаючыся ўсё ніжэй і ніжэй, пакідаючы за сабою шлейф дыму, уключыўшы агні аварыйнай пасадкі. Відавочцы здарэння гавораць, што на трэцім кругу ён апусціўся так нізка, што былі бачныя сілуэты лётчыкаў у кабінах. Чацвёрты круг гэтага самалёта адназначна закончыўся б на дахах жылых дамоў.

З рухавіка машыны вырывалася полымя. Людзі — адны ў паніцы, іншыя з цікаўнасці — высыпалі ў двары і назіралі за тым, што адбывалася. Лётчыкі накіравалі машыну ў бок кальцавой, відаць, спрабуючы пасадзіць самалёт на аэрадроме ДТСААФ. Выбуху, які б абвяшчаў аб драматычным фінале, дзякуй Богу, не адбылося. ■

# «Круглы стол» для Лукашэнкі

Юрый ПАЦЁМКІН

Аб'ядналая грамадзянская партыя звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі з прапановай арганізаваць 19 ліпеня ў прамым тэлеэфіры «круглы стол» для калектыўнага падвядзення вынікаў ягонага пяцігадовага знаходжання на пасадзе прэзідэнта Беларусі. «20 ліпеня 1994 года грамадзяне Беларусі кінулі ў скрыню для галасавання бюлетэнь надзеі і прадаставілі А.Лукашэнку беспрацэнтны крэдыт даверу, — гаворыцца ў звароце АГП. — Надышоў час збіраць камяні і трымаць адказ за зробленае».

Як адзначыў намеснік старшыні партыі Анатоль Лябедзька, публічны адказ кіраўніка дзяржавы напярэдадні заканчэння яго паўнамоцтваў і крытычнае асэнсаванне вынікаў дзейнасці кіраўніка дзяржавы — гэта нармальная цывілізаваная практыка. «Мноства заклінанняў, абяцанняў, нявыкананых праграмаў, рэкламна-прапагандысцкіх ролікаў аб барацьбе з ворагамі прэзідэнта, але не інвестыцыяў, аўтарытэту на міжнароднай арэне і грашовых знакаў у сямейным бюджэце», — такое меркаванне А.Лябедзькі аб пяцігадовым прэзідэнцкім праўленні А.Лукашэнкі. ■

# Самы высокі конкурс сярод эколагаў

Вольга КРАЦЯНКОВА

Закончыла сваю працу прыёмная камісія Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З 22 чэрвеня па 5 ліпеня ажыццяўляўся прыём дакументаў на розныя факультэты. У конкурсе заяваў лідзіруе спецыяльнасць «міжнародныя правa» факультэта міжнародных адносінаў (5,5 заяваў на адно месца). Найменш папулярная сярод абітурыентаў спецыяльнасць «сучасная французская мова і літаратура» філалагічнага факультэта (1,33 чалавека на месца).

Як паведаміў адказны сакратар прыёмнай камісіі БДУ Віктар Самахвал, прайшло тэставанне сярод медалістаў і выпускнікоў універсітэцкага ліцэя, якія паспяхова здалі выпускныя экзамены. Асаблівасцю цяперашняга тэставання з'яўляецца тое, што колькасць прынятых па ягоных выніках не павінна перавышаць 2/3 ад плана прыёму, адзначыў В.Самахвал. Паводле ягоных слоў, з 1.161 прайшоўшага іспыты абітурыента 498 маладых людзей былі рэкамендаваныя да залічэння на дзённае аддзяленне факультэтаў радыёфізікі і электронікі, фізічнага, біялагічнага, хімічнага і на завочнае аддзяленне юрыдычнага факультэта. Прычым, як заўважыў Віктар Самахвал, пасля праведзенага тэставання самай цяжкадаступнай з конкурсам 8,4 чалавека на месца стала спецыяльнасць «экалогія» біялагічнага факультэта. ■

## Беларуская пачатковая школа ў Менску

**Да ўвагі бацькоў, жадаючых даць сваім дзеткам беларускую адукацыю і выхаванне!**

ТБМ арганізуе набор дзяцей 6-7 гадоў у 1 клас прыватнай пачатковай школы, заснаванай на базе юнацкай секцыі ТБМ. Забяспечваецца кваліфікаванае выкладанне ўсіх прадметаў па-беларуску ў адпаведнасці з праграмнымі нормамі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі для школ з беларускай моваў навучання.

Зацікаўленых запрашаем на сустрэчу з кіраўніцтвам ТБМ 15 ліпеня (чацвер) у 17:30 на Румянцава, 13.

Даведкі па тэл.: **284-85-11** (з 10:30 да 19:00 штодня).

**Мінгарвыканкам даў дазвол на правядзенне антыфашысцкага мітынгу з канцэртам «МОЛАДЗЬ СУПРАЦЬ ФАШЫЗМУ» на пл.Парыжскай камуны 11 ліпеня з 16 да 18 гадзінаў. У мітынгу прымуць удзел гурты «Нейра-Дзюбель», «Мясцовы час», «Зніч», «Склеп» і іншыя.**

# «Беркут» — азначае «школа СС»

**Кастусь ТАРАСАЎ**

**Напад на беларускую вёску расійскага «ваенна-патрыятычнага» атрада «Беркут» адбыўся ў той час, калі сумеснае паседжанне парламентарыяў Беларусі і Расіі дамаўлялася пра шчыльны Саюз дзвюх дзяржаваў і апявала будучае шчаслівае жыццё беларусаў пад расійскім арлом. А за дзве сотні вёрстаў ад Авальнай залы на беларускай зямлі расійскія грамадзяне здзейснялі наўмыснае злачынства над беларускімі грамадзянамі. Удзельнікаў злачынства, як вынікае з цьмяных тлумачэнняў прадстаўнікоў МУС, міліцыя «дэпартавала» за межы рэспублікі. Застаўся адзіны арыштаваны — «мецэнат ваеннага мастацтва» Анатоль Сілівончык, які фінансаваў расійскі глум над беларусамі.**

Калі пачынаеш разважаць над тым, што перажылі сяляне вёскі Мікалаеўка, дык робіцца сумна ад цынічнага нахабства «гасцей», якія прыбылі да нас на Свята вызвалення. З андрэеўскім сцягам, са зброяй, дымавымі і выбуховымі пакетамі, наручнікамі, газавымі балончыкамі, гэта значыць з матэрыяльна забяспечаным планам карнай акцыі над населеным пунктам. Хто ж дазволіў «Беркуту» перайсці мяжу Беларусі з незарэгістраванай зброяй? Чаму 130 чалавек ва уніформе са зброяй не затрымалі ўвагі нашых ахоўнікаў парадку? Хто з Светлагорскага раённага МУС апекаваў гэты атрад? Няўжо трагічны вопыт Нямігі ніяк не асэнсаваны органамі міліцыі, і яна блізка не падыходзіла да «беркутаўцаў»? Не цікавілася, як яны збіраюцца «выжываць»? Ці каго? Якая яшчэ драма павінна адбыцца на Беларусі, каб нашая міліцыя пачала думаць наперад?

Дзівіць мяккая афіцыйная трактоўка зместу акцыі. Ці магчыма тлумачыць як злоснае хуліганства парушэнне канстытуцыйных правоў грамадзянаў Беларусі на свабоду, уварванне ў іхныя хаты, захоп людзей у закладнікі, здзекі з іх, застрашванне зброяй, абразы жанчын, звязаныя рукі, пырсканне газам, узніманне над сельскім саветам (органам беларускай улады) андрэеўскага сцяга? Чаму расійскім афіцэрам, якія камандавалі «Беркутам», спатрэбілася зневажаць дзяржаўны сцяг Беларусі? Калі скласці разам усе дзеянні атрада «Беркут», дык акрэсленне для іх адно — бандытызм. Адпаведна атрад «Беркут» — бандыцкае фарміраванне.

Відавочна, «мецэнат» «расійскіх патрыётаў» Сілівончык і аблашчаныя ім «беркутаўцы» не абцяжарвалі сябе думкамі, што акцыя захопу вёскі мае рызыку закончыцца чалавечай трагедыяй. Пасля Першамайска, штотыднёвага захопу заложнікаў на Паўночным Каўказе людзі верац у магчымы напад тэрарыстаў. Нейкі мікалаевец рашучага характару мог проста забіць сякерай «беркутаўца», не ведаючы, што той цягне яго носам па зямлі дзеля сваёй патрыятычнай забаўкі. Ці цяжарная кабета магла ад жаху за бацьку ці мужа нарадзіць раней часу з усімі благімі наступствамі для дзіцяці. І хто з самачынных эсэсаўцаў адказваў бы за такую жыццёвую драму? Спісалі б як ахвяру інтэграцыйнай ваеннай гульні. І самае галоўнае: чаму людзі, якім канстытуцыя Беларусі гарантуе абарону іхных правоў, аказаліся ахвярамі прыезджых выраткаў? Хто канкрэтна з уладных асобаў Светлагорскага раёна дамаўляўся са спонсарам Сілівончыкам і гэтак смела блаславіў бандыцкую акцыю? Ці гэтыя раённыя валадары з'ехалі з глузду ад спякоты і гарэлкі альбо былі іншыя — ідэалагічныя ці меркантыльныя — падставы? Чаму з «Беркутам» злучылася нашае міністэрства абароны, прымаючы ў свае казармы атрад пасля ўчыненага ім гвалту над жыхарамі Мікалаеўкі? Што гэта за вайсковая часць, што прапускае на сваю тэрыторыю 130 чалавек з газавай зброяй? А калі б сургуцкія «патрыёты» вырашылі захапіць каравульны нарад гэтага падраздзялення?

У падмурку дзеянняў «Беркута» і падтрымкі яго нашымі ўладамі і ваеннымі ляжыць прышчэпленая знявага да беларускай дзяржаўнасці, незалежнасці, суверэнітэту. Таму, прыехаўшы на нашае свята, беркутаўцы не пабаяліся паказаць, што не паважаюць ні гэтае свята, ні людзей, што тут жывуць.

Патрыятызм найперш абавязаны трымацца прынцыпу: ніхто не мае права замахвацца на свабоду іншага чалавека. Дакрананне аднаго чалавека да другога з агрэсіўнай мэтай ператварае першага ў агрэсара і злачынцу. Што і адбылося ў вёсцы Мікалаеўка.

Няцяжка ўявіць, што было б, калі б падобную «зарніцу» адносна беларускіх грамадзянаў здзейсніў атрад «ваенных патрыётаў», скажам, з Літвы. Нашы МУС, КДБ, МА сталі б на мяжы з Літвой, грымнуў бы міжнародны скандал. А ўсе, хто дазваляў сабе збіваць і лаяць беларусаў, сядзелі б за кратамі. Некалькі гадоў таму купка ўкраінцаў, якія нікога не захоплівалі, не звязвалі, не гналі ў палон, толькі за ўдзел у мінскай апазіцыйнай дэманстрацыі патрапілі ў турму. Зараз вінаватыя ў нахабным парушэнні суверэнітэту Беларусі, абразе годнасці беларускіх грамадзянаў, супраціўленні органам правапарадку рэспублікі адпушчаныя з мірам. Чаму? Хто такі добры, што не хоча прыцягваць бандытаў да адказнасці за здзекі з нашых людзей? Што карысці з узбуджанай крымінальнай справы па артыкуле «злоснае хуліганства», калі злачынцаў адпусцілі дамоў?


Фота Д. ХАМІЦЭВІЧ / IREX/ProMedia

Прайшоў тыдзень, а нашыя ўрадавыя органы не зрабілі ніякай заявы. Ёсць больш важныя справы – інтэграцыя Расіі і Беларусі. Мікалаеўка паказала, што гэта будзе за інтэграцыя, бо ўсе «ваенна-патрыятычныя» сілы Расіі, пэўна, успрымаюць Беларусь як поле для ваенных заняткаў.

Мікалаеўка — неаспрэчнае сведчанне таго, што расійскія «беркуты» паставіліся да беларусаў як да падвопытных мышэй, бо ўпэўненыя, што беларусы цярплівыя, рахманыя, праглынуць крыўду моўчкі. Тым болей, што багаты бізнесмен мясцовага паходжання выдаткаваў грошы на ўрокі гвалту над сялянамі, сам намазаў морду сажай і даказваў землякам, які ён стаў круты карнік. У нас заўсёды знаходзяцца людзі, якія з радасцю прадаюць сваіх пад расійскі падкаваны бот. Наш урад і парламент прадаюць Расіі ўсю краіну, прадпрымальнік Сілівончык здаў бандытам у арэнду адну вёску. Розніца ў магчымасцях. Якім будзе фінал «саюза» для краіны, праілюстравала Мікалаеўка. ■

## ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**Як Вы ставіцеся да заявы Аляксандра Лукашэнкі, што калі Расія адмаўляецца ад інтэграцыі, то ён мае намер направіць вектар знешняй палітыкі на Захад?**


**Валянцін ВАЛЬКЕВІЧ, інжынер па ахове працы**

— Яму ж лепш бачна, ён жа напэўна касультаваўся з некім перад гэтым. Заява Лукашэнкі — гэта заява, а рэальна ж ужо ніхто інтэграцыю з Расіяй не спыніць.


**Сяргей, беспрацоўны**

— Гэта проста чарговы папулісцкі крок. Ён хоча ўтрымацца ва ўладзе і не больш таго. На самой справе Расія трымае Лукашэнку ў жорсткіх рамках, і з ёю ён не будзе рваць адносінаў.


**Уладзімір Рыгоравіч, пенсіянер**

— Ну, Расія нікуды не дзенецца ад нас, але трэба ж і з Захадам гандляваць. А Расія нікуды не збяжыць.


**Каця, студэнтка**

— У яго нічога не атрымаецца. Гэтыя заявы яго — пустыя абсалютна, як і заўсёды. А тое, што ён меркаванні свае мяняе — асабістыя яго праблемы. А нагогул я асабліва не зважаю, бо лічу, што «Лукашэнка» — гэтым усё сказана!


**Валянціна, хатняя гаспадыня**

— У Еўропе ніхто не прымае, і ён проста спрабуе неяк згладзіць сітуацыю, якая склалася. Лукашэнка — прыкідваецца.


**Апыталі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Максім МАЛІНОЎСКІ (фота)**

КРЫМІНАЛ

# «Белая смерть» с Черного континента

**Фёдор БЕШКЕКОВ**

**Кто из нас не смотрел хоть одного полицейского сериала с крутыми спецэффектами в стиле «action» и симпатичными главными героями? В каждом из нас все-таки жив ребенок, которому в глубине души хочется, чтобы добро побеждало зло. Криминальный прессинг отступает под напором Нэша Бриджеса и рейнджера Уокера.**

Несмотря на необычайно широкий круг применения профнавыков современных суперменов — от изничтожения международных террористов до поимки тривиальных грабителей — есть одна общая тема, которая присутствует едва ли не в каждой серии — наркотики...

В виртуальном телемире для наведения порядка в американском городе главному герою и его талантливо подобранному рядовому составу требуется по законам жанра перестрелять в среднем пятерых злодеев, завербовать одного осведомителя (желательно женского пола), и только потом задержать несколько килограммов героина. А последней пулей с расстояния в километр наповал уложить позорно убегающего на вертолете главаря наркомафии...

Увы, жизнь отличается от сериалов. Колумбийские наркокартели, азиатская «триада» чувствуют себя в этом мире относительно комфортно, несмотря на усилия правоохранительных органов. А тема реальной борьбы с распространением наркотиков по-прежнему занимает в мировых новостях одно из первых мест.

Для Беларуси наиболее актуальной остается проблема транзитной контрабанды наркотиков. Хотя в последнее время эксперты признают — мы становимся и регионом устойчивого сбыта этого зелья. А уменьшающиеся объемы выявленной наркоконтрабанды могут свидетельствовать лишь о том, что наших гурманов местный, выращенный на огороде у нас или на Украине наркотик уже не устраивает. Да и курьерам проще и безопаснее перевозить не десятки килограммов маковой соломы, а пакетики с опием, кокаином, героином. Это и понятно, стоимость, к примеру, 1 грамма рафинированного героина — около 100 долларов. В одном грамме приблизительно 4 дозы, привыкание к героину наступает уже со второй.

Арифметика и простая, и страшная. Особенно если учесть, что, стараясь увеличить вес наркотиков, перекупщики в них добавляют самую разнообразную гадость — случаи отравления среди наркоманов скорее правило, чем исключение.

И если наркомания — болезнь, не знающая границ, то наркоторговля — зло, зачастую имеющее свое национальное лицо. Мы не склонны демонизировать граждан той или иной страны или призывать к расовой или национальной дискриминации. Но в то же время эксперты уже давно поделили мир на так называемые «зоны повышенного риска». К примеру, багаж выходцев из стран Латинской Америки и, особенно, Колумбии, в аэропортах Соединенных Штатов проверяется гораздо тщательнее. К подобным вещам, даже признавая их ненормальным положением дел, туристы относятся, в основном, с пониманием.

Однако помимо широко известных «Золотого треугольника» и «Золотого полумесяца» в мире торговли наркотиками появилась еще одна совершенно самостоятельная сила — нигерийская. Специалисты давно уже предупреждали о ее нарастающей активности. Уверенное разрастание сферы влияния преступников из стран Черного континента заставляет взглянуть на их деятельность более серьезно.



Во-первых, мы привыкли относиться к африканцам вообще с легкой долей некой смеси сочувствия и пренебрежения. И совершенно напрасно. Особенно глупо выглядит подобный снобизм после того, как наше отечество начали относить к категории развивающихся стран.

Во-вторых, Нигерия, к примеру, по количеству населения уступает России очень немного (о Беларуси и говорить не приходится). В-третьих, африканская диаспора, а, следовательно, и ее международное влияние, соперничает только с такими гигантскими человеческими «муравейниками», как «китайские кварталы».

Итак, огромное население Федеративной Республики Нигерия, разбитое на кланы с собственной культурой и языком, желает жить не хуже цивилизованного мира. А так как уровень жизни в самой Нигерии априори ниже среднеевропейского — эмиграция достаточно сильна. В поисках достойной работы и образования африканцы колесят по всему свету. Соответственно, в этот поток вливаются и представители криминального мира. Именно благодаря их деятельности Нигерия приобрела международную «известность». Уже в конце девяностого года аналитики отдают первое место по мошенничеству в сфере банковских карт в Америке нигерийским клановым группировкам. Причем им принадлежит ряд «ноу-хау» в этой области. Но только лишь мошенничеством изобретательность нигерийцев в преступной специализации не ограничилась. Нигерийцы стали самостоятельной силой в мировом наркобизнесе, особенно в операциях с героином и кокаином.

*Продолжение на стр.7*

памяць XX стагоддзя 1911

# Коннікі генерала Вілы

Міхал МАТУШ

Некалькі гадоў таму жыхары мексіканскага штата Чʼяпас назвалі сябе паслядоўнікамі справы Эміліяна Сапаты і абвясцілі вайну мексіканскаму ўраду, патрабуючы сацыяльнай справядлівасці для народа майя (у Мексіцы пражывае каля 10 мільёнаў гэтага старажытнага народа). Сапатысты нават прадпрынялі масавы паход на сталіцу Мехіка і дамагліся ўрадавых субсідыяў на развіццё Чʼяпаса.

Значэнне мела імя, якое майя ўзялі за назву свайго руху. Эміліяна Сапата — адзін з знакамітых дзеячаў мексіканскай рэвалюцыі 1910—1917 гадоў, якая змяніла гісторыю не толькі Мексікі, але ўсёй Лацінскай Амерыкі.

Грамадзянскія войны адбываюцца тады, калі наспявае магчымасць перадзелу ўласнасці на карысць нейкай групы, тым болей, калі вайна абяцае нейкія здабыткі бальшыні народа. На пачатку стагоддзя для Мексікі здабыткам сялянаў магла стаць зямля. У мексіканскіх штатах 98 працэнтаў насельніцтва зямлі не мелі, а тры чвэрці ўсяго багацця краіны трымалі ў руках замежныя манаполіі, у першую чаргу грынга, як тут называлі паўночнаамерыканцаў...

Тэрарыстычная дыктатура прэзідэнта Дыяса (1877—1911) карала бунты беззямельных пеонаў, паліцыя мела права на забойства любога, хто не быў лаяльны да рэжыму. Тэрор выклікаў паўстанне. Адначасна ўзніклі сялянскія атрады, якія на поўдні Мексікі ўзначаліў Эміліяна Сапата (1880—1919), а на поўначы кіраўніком паўстанцаў стаў генерал Франсіска Вілья (1877—1923).



Генерал Вілы (у цэнтры) з паплечнікамі

Да рэвалюцыі імя Вілы абкружалі легенды, падобныя на англійскія легенды пра Робін Гуда. Вілья быў бандыт, які клапаціўся пра жабракоў. Рабуючы банкі, заможных латыфундыстаў, сялянаў з кукурузай, Вілья ўсё перадаваў бедным пеонам. Невядома, праўда гэта ці не, але нібыта ён стаў бандытам, забіўшы чыноўніка, які згвалціў ягоную сястру. Слава сумленнага разбойніка прывяла да яго тысячы сялян, калі ён пачаў стварыць рэвалюцыйную армію.

Вілья быў непісьменны, ён навучыўся чытаць ужо ў часе рэвалюцыі, калі патрапіў на паўгода ў турму. Аднак бог адараваў яго прыроджаным розумам, ваенным талентам, рашучым характарам і надзвычайнай адвагай. Вілья - рамантык рэвалюцыі, для сябе асабіста ён чакаў пасля перамогі няшмат. Яму хацелася «пасля рэвалюцыі, калі Мексіка стане рэспублікай», дажываць свой век у ваеннай калоніі з сябрамі-ветэранамі. Свае мары ён выказаў так: «І будзе зусім выдатна, калі будучы ўрад адкрые ў нашай калоніі завод, дзе мы маглі б выраблядь добрыя сёдлы, бо я ведаю гэтую справу, астатні час мне хацелася б працаваць на сваёй маленькай ферме — разводзіць кароў. Гэта цудоўна — дапамагаць Мексіцы стаць шчаслівай краінай». Зразумела, што нават сціплыя планы Віны не здзейсніліся. «Генералы арміі свабоды» вельмі рэдка атрымоўваюць магчымасць ціха сядзець на сваёй ферме.

Грамадзянская вайна – гэта найперш вынішчэнне ранейшых уладароў. Пасля некалькіх забойстваў прэзідэнтаў да ўлады прыйшоў Каранса. Гэта таксама быў невычайны чалавек. У адрозненне ад непісьменнага сына бедняка Вілы, дон Венустыяна Каранса паходзіў з арыстакратычнага іспанскага роду, які прыйшоў у Мексіку з канкістадорамі і быў нагэтулькі заможны, што дон Венустыяна лёгка ўзброіў за свой кошт 6-тысячнае войска. Як Дон Кіхот павёў на подзвігі свайго слугу, так Каранса павёў сваіх пеонаў у рэвалюцыю. Дзякуючы падтрымцы Віны ён займеў аўтарытэт Першага правадыра рэвалюцыі.

У 1914 годзе ЗША акупавалі порт Веракрус, а праз два гады акупавалі частку Мексікі (у 1845—1848 гадах амерыканцы ўжо адрэзалі ад Мексікі тэрыторыю плошчай 2,3 мільёна кв. км, што амаль у 10 разоў болей за Беларусь).

Як часта здараецца пад час рэвалюцыі, нядаўнія саюзнікі хутка ператвараюцца ў ворагаў. Так было ў Вілы і Карансы. У 1915 годзе «чырвоныя батальёны», створаныя з рабочых Карансам, разбілі атрады Вілы, а ўслед перамаглі войска Сапаты. 1917 год прынёс Мексіцы Канстытуцыю, якая ліквідавала латыфундыі, закрыла каталіцкія манастыры, нацыяналізавала маёмасць замежных манаполіяў, устанавіла 8-гадзінны рабочы дзень, дала гарантыю мінімальнай заработнай платы, стварыла нацыянальны парламент. Мэта рэвалюцыі для ўладных колаў Мексікі была дасягнутая. Каб не мець нечаканых перашкодаў ад аўтарытэтных сярод народа Сапаты і Вілы, іх праз тэрарыстычныя акты прынеслі ў ахвяру буржуазнай стабільнасці.

Потым забітыя былі ўзведзеныя ў ранг нацыянальных герояў, ім паставілі помнікі, народ шануе іх памяць. Але ў 1911 годзе, калі рэвалюцыя перамагла, калі ўсе галоўныя дзеячы былі яшчэ жывыя, яны паказалі свету дух Мексікі, якая выходзіла да самастойнага жыцця ў XX стагоддзі. ■

# Будслаўская пілігрымка

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**Гэтае беларускае мястэчка жыве зусім па іншым календары, чым уся астатняя тэрыторыя Беларусі. Калі паўсюль Новы год надыходзіць 1 студзеня, то ў Будславе год пачынаецца 2 ліпеня і заканчваецца ў гэты ж дзень наступнага года. Менавіта ў першыя дні ліпеня ў Будслаўскім бернардынскім касцёле адзначаецца свята цудатворнага абраза Багародзіцы, якую кіраўніцтва Каталіцкага касцёла Беларусі афіцыйна прызнала галоўнай патронкай нашай краіны. Таму, па словах мясцовых жыхароў, толькі 1 і 2 ліпеня і жывуць яны нармальна, калі ў іхняе ціхае мястэчка прыходзяць і прыязджаюць дзесяткі тысяч пілігрымаў — увесь астатні час будслаўчане вядуць барацьбу за выжыванне.**



Будслаў вядомы ў беларускай гісторыі з 1504 года (прынамсі, гэтая дата ўпрыгожвае прыдарожную шыльду на ўездзе ў мястэчка). У гэтым годзе на беразе рэчкі Сэрвач, прытока Віліі, дзе мясцовыя лесарубы спляжылі лес, зʼявіліся віленскія манахі-бернардынцы. З дазволу ваяводы тагачаснай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага законнікі паставілі драўляныя буды і невялікі зруб касцёла. Такім чынам быў заснаваны кляштар, які даў пачатак і назву будучаму мястэчку. Неўзабаве ў новазбудаваны бернардзінскі кляштар з Вільні перавезлі цудоўны работы абраз Дзевы Марыі з дзіцяткам Езусам на руках. Гэты абраз і звязаныя з ім цуды сталі галоўнай славутасцю Будслава.

Першы вялікі цуд абраза — гэта ягонае ацаленне ў сярэдзіне 16-га стагоддзя, калі пажарам былі цалкам знішчаныя драўляная бажніца і кляштарныя пабудовы. Але полымя абсалютна не закранула выяву Багародзіцы. Каб асцерагчы святыню ад падобных катастрофаў у будучыні, у пачатку 17-га стагоддзя манахі пабудавалі невялікі мураваны касцёл. Гэтая святыня засталася і да цяперашняга часу ў выглядзе бакавой капліцы са старажытным алтаром драўлянай разьбы. З 16-га стагоддзя паходзяць і першыя пісьмовыя сведчанні аб цудоўных аздараўленнях, занатаваныя ў парафіяльнай кнізе. Мясцовая засцянковая шляхта і сталічныя віленскія баяры пакідалі ў гэтай кнізе, дарэчы, на старабеларускай мове, запісы падзякі Божай Маці за цудоўныя аздараўленні ад розных хвароб. З цягам часу культ будслаўскага абраза стаў пашырацца на тэрыторыю ўсяго Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай. На фэст 2 ліпеня ў Будслаў прыязджалі шляхта і магнаты з усяго краю і з-за мяжы. Пасля акупацыі Беларусі спачатку Расійскай імперыяй, а потым і СССР паломніцтвы беларускіх каталікоў у Будслаў сталі таемнымі. Тым не менш абраз Багародзіцы працягваў рабіць цуды. Жыхары мястэчка, напрыклад, проста ўпэўненыя, што толькі дзякуючы заступніцтву Божай Маці Будслаў не быў знішчаны падчас расійска-французскай вайны 1812 года. Таксама ў часе 1-ай і 2-ой сусветных войнаў. Легальныя паломніцтвы вернікаў да святыні былі адноўленыя ў 1992 г. Тады невялічкія групы маладых каталікоў з усёй Беларусі адзначылі такім чынам атрыманую нядаўна дзяржаўную незалежнасць сваёй краіны. Пілігрымкі пачатку 90-х гадоў нагадвалі больш дэманстрацыяй нацыянальна-рэлігійнага патрыятызму і з кожным годам станавіліся ўсё больш шматлюднымі. Гэты працэс не быў перапынены і пасля прыходу да ўлады першага прэзідэнта. Штогадовае свята ў Будславе падчас кіравання Лукашэнкі набыло своеасаблівую форму скрытага пратэсту супраць уладаў. Накшталт таго, як у часе ваеннага становішча ў Польшчы моладзь масава з нацыянальнымі сцягамі і штандарамі Салідарнасці хадзіла да цудатворнага абраза Чэнстахоўскай Багародзіцы-каралевы Польшчы. Нядаўна Ватыкан афіцыйна прызнаў Будслаўскі касцёл за галоўную каталіцкую святыню Беларусі, надаўшы яму тытул малой базылікі. А летась кардынал Казімір Свёнтак аздобіў абраз адмысловаю папскаю каронай.

Зрабіў Будслаў свой унёсак і ў гісторыю беларускага нацыянальнага адраджэння першай паловы 20-га стагоддзя. У 1917—20 гадах тут дзейнічалі беларуская гімназія і самадзейны тэатр, якім кіравала славутая Пауліна Мядзёлка. У Будславе нарадзіўся і правёў свае юнацкія гады прэзідэнт БНР у выгнанні Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а таксама сучасны беларускі паэт Славамір Адамовіч. Мястэчка і цяпер вызначаецца досыць высокім узроўнем нацыянальнай свядомасці сваіх жыхароў. Цікава, дзе яшчэ ў Беларусі можна сустрэць загадчыцу сельпо, ці простую дзярку, якая б гаварыла на чыстай літаратурнай мове, прычым у яе не сапсаваным бальшавіцкай рэформаю варыянце? У Будславе можна. Аднак адным патрыятызмам сыты не будзеш, і гэта для жыхароў мястэчка вялікая праблема. Працоўных месцаў катастрафічна не хапае, а мясцовыя спірт- і вінзаводы даць усім работу проста не ў стане. Таму пенсіянеры, зразумела, займаюцца хатняй гаспадаркай, а моладзь пасля заканчэння школы адразу ж падаецца шукаць шчасця ў больш вялікія гарады. Усе будслаўскія выхадцы збіраюцца разам у родным мястэчку толькі раз на год — 2 ліпеня. Касцёльны фэст для будслаўскай моладзі — гэта яшчэ і нагода павыхваляцца перад сваякамі і знаёмымі ўласнымі дасягненнямі ў вялікім свеце. Таму па даўняй традыцыі людзі на свята апранаюць усё самае лепшае, прычым там можна сустрэць вясковых мужыкоў і кабетаў на вазах, апранутых па модзе 1939-га. Уражанне такое, што час спыніўся.

У савецкія часы мясцовыя ўлады мелі цвёрды загад з райкама супрацьстаяць «рэлігійнаму ачмурэнню» савецкіх калгаснікаў. Таму заўсёды 1 ліпеня, калі каталікі ішлі ўначы на святочную імшу, насупраць у мясцовым клубе грымела дыскатэка. Часы змяніліся, і цяпер сельсаветчыкі ўсяляк дапамагаюць ксяндзу ў арганізацыі свята. Аднак, дыскатэку па інерцыі не адмянілі, і яна па-ранейшаму адбываецца, праўда, у цалкам пустым клубе. Будслаўскіх хлопцаў больш цягне да касцёла, дзе шмат маладых паломніцаў з розных куткоў Беларусі. Пасля багаслужэння моладзь арганізоўвае скокі прама на прыкасцёльным пляцы. Гэта дае падставу былому шматгадоваму пробашчу Будслаўскага касцёла кс.Францішку Грынкевічу напаўжартам бурчаць – маўляў, «развесяліліся, як камсамольцы на Вялікдзень». А калі сурʼёзна, то падчас такіх фэстаў здараецца ўсякае, таму міліцыю ў Будслаў на свята сцягваюць з усяго Мядзельскага раёна.

Цяпер Будслаўскім касцёлам кіруе манах бернардзінец айцец Павел Одзіньш, які да гэтага працаваў у Пецярбургу і мае рэпутацыю неблагога будаўніка. Кардынал Казімір Свёнтак мае намер стварыць у Будславе спецыяльнае месца паломніцтваў. Існуе ўжо і генеральны план адбудовы мястэчка, згодна з якім у Будславе павінны быць пабудаваныя гатэлі, дарогі і нават верталётная пляцоўка для прыёму высокіх гасцей. Кардынал вельмі спадзяецца, што Будслаў абавязкова наведае Папа Ян Павел II. Але гэта ў планах на будучыню. Жыхары Будслава чакаюць развіцця інфраструктуры, як нябеснай манны. Яны спадзяюцца, што з прытокам замежных паломнікаў у іх зʼявіцца рэальная магчымасць зарабляць грошы. Прычым не толькі адзін раз у 12 месяцаў — на «новы год», які пачынаецца тут 2 ліпеня. ■

МЕРКАВАННІ

# Французы звоняць Настрадамусу

Мікіта ПАЎЛАЎ

Дык што ж прадказваў знакаміты вяшчун Мішэль Настрадамус у сваім знакамітым катране, аб якім па меры набліжэння ліпеня ўспаміналі ўсё больш і больш аматары прадказанняў? «Адназначнага адказу на гэтае пытанне няма», — гаворыць усім, хто тэлефануе ў музей Настрадамуса ў горадзе Салон-дэ-Праванс, дырэктар Жаклін Алеман.

А шквал званкоў нарастае. Французы цікавяцца, як пазбегчы апакаліпсіса, ці сапраўды Парыж будзе знішчаны назаўсёды і г.д.

Падставай для хваляванняў французаў стаў адзін з тысяч катранаў, напісаных знакамітым празарліўцам XVI стагоддзя. Справа ў тым, што ў большасці сваіх прадказанняў Настрадамус не адзначае ні дакладнага часу, ні дакладнага месца. У катране ж гаворыцца літаральна наступнае: «Год тысяча дзевяцьсот дзевяноста дзевяты сёмы месяц / З неба прыйдзе вялікі Кароль Жаху».

Нехта бачыць у гэтым прадказанне трэцяй сусветнай вайны, амерыканцы лічаць, што гэта дата канца свету, а кутюр'е Пако Рабан сцвярджае: 11 жніўня, у дзень сонечнага зацмення, з неба ўпадзе расійскі арбітальны комплекс «Мір» і знішчыць Парыж і дэпартамент Жэрс, размешчаны на паўднёвым захадзе Францыі.

За апошні месяц папулярнасць музея Настрадамуса моцна вырасла. Сюды не толькі тэлефануюць, але і прыязджаюць шматлікія французы ў надзеі прыадчыніць заслону над загадкавым прадказаннем самага знакамітага астролага ўсіх часоў і народаў. Цікаўным Жаклін Алеман адказвае, што Мішэль Настрадамус у сваіх «Цэнтурыях» хутчэй папярэджваў людзей аб магчымым развіцці падзеяў, чым прадказваў канкрэтныя катаклізмы.

Як бы то ні было, ужо ў бліжэйшы час нам прадаставіцца ўнікальная магчымасць праверыць прадказанне французскага вешчуна. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 569 Нумар падпісаны ў друк 08/07/99 (15:00) Наклад — 21.130